Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem.

Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ ДОЛЯ

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12, m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **2 зл.** Для заграніцы ўдвая даражэй.

**Перамена адрэса 30 грошы.**

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукована га залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 гр., за радок пэтыту ў 1 шп

№ 16. Вільня, Субота, 28-га лютага 1925 г. Год I.

**У гэтым нумары 6 страніц.**

## Два плебісцыты.

Ня гледзячы на нязвычайна цяжкое матар'яльнае палажэньне нашага сялянства ў Заходняй Беларусі, ня гледзячы на ўсю вострасьць зямельнага пытаньня ў гэтай часьціне нашае Бацькаўшчыны,— ня гэтыя справы варушаць у гэты мамэнт беларускія народныя масы. І ня ўрадавы законапраект аб „зямельнай рэформе“, аб якім—ніжэй, а справа зусім другога сорту займае сяньня нашу вёску перад усім.

Гэта—ўсё тая-ж *справа школьная*, справа будаваньня *беларускае народнае школы.*

Як паўтраця году назад беларускія масы заварушыліся з прычыны выбараў дэпутатаў у Сойм і Сэнат, як тады яны выявілі неспадзяваную салідарнасьць і цьвёрдасьць, даючы бліскучую перамогу беларускаму кандыдацкаму сьпіску пад нумарам 16,— так і цяпер народ наш выяўляе сваю нацыянальную сьвядомасьць і арганізованасьць у барацьбе за родную школу.

Бо-ж вялікія і цяжкія перашкоды прыходзіцца беларусу перамагаць па гэтай дарозе. Каб на гэту восень мець ужо родную школу, беларуская вёска павінна справіцца з падачай дэклярацыяў у зусім кароткі час—да 31 марца месяца. І трэба сказаць, што вёска наша ня сьпіць: да гмінаў зварачаюцца штодня сотні бацькоў аб пасьведчаньне подпісаў на дэклярацыях аб жаданьні вучыць дзетак па-беларуску. Але пры гэтым першым кроку яны сустракаюць найвялікшую перашкоду.

З цэлае масы вёсак атрымліваем мы пісьмы аб надужыцьцях гмінных урадоўцаў. З Нясьвіжскага павету нам пішуць, што войт Жухавіцкае гміны рашуча адмовіўся сьведчыць подпісы на дэклярацыях, кажучы, што нямашака адпаведнага распараджэньня ад староства. З Вялейшчыны наказуюць, што Маладэчанская гміна, ня гледзячы на сотні дэклярацыяў, сцьвярджае ня больш за 5—7 подпісаў за дзень, кажучы, што „ня мае часу“... У Слонімшчыне разгромам усіх прыватных беларускіх школаў і арыштам большае часьці вучыўшых у іх настанікаў адміністрацыя тэрорызуе насяленьне, каб не адважалася і памыкацца дабівацца роднае школы. А пад самай Вільняй—у Троках — пан куратар Гонсёровскі ўрачыста асьвячае новую жаноцкую вучыцельскую сэмінарыю — чыста польскую, нарушаючы гэтым загад закону аб двуязычных сэмінарыях, ды адначасна ніяк ня можа распачаць навукі на гучна абвешчаных „беларускіх“ вучыцельскіх курсах, якія пэўне і на другі школьны год не дадуць „выкваліфікаваных“ настаўнікаў...

І ўсё-ж такі народ наш не паддаецца. Ні пагрозы, ні арышты, ні іншыя страхі *ня могуць зламаць цьвёрдую волю нашага народу дабіцца роднае школы.*

І воля гэтая—так, ці сяк—пераможа ўсе перашкоды. Ужо самы рост лічбы беларускіх прыватных школ, якіх ад Каляд адкрылася каля трыццацёх, сьведчыць аб *сіле і стыхійнасьці* народнага руху да роднае школы. А тысячы дэклярацыяў, падаваных школьным інспэктарам, толькі пацьвярджаюць гэтую ачывістую праўду.

Сьмела, беларусы, стойце за вашу праўду і вашае права! І ў гэтым асаблівым „*школьным плебісцыце*“ пабеда будзе ваша, як была ў 1922 годзе на „*выбарным плебісцыце*“!

---

У арт. 5 „Ustawy z dnia 31 lipca 1924 r., nektóre postanowienia o organizacyi zawieraiącej szkolnictwa„ гаварыцца даслоўна гэтак:

> „Арт. 5. **Новазакладаныя дзяржаўныя вучыцельскія сэмінарыі** на тэрыторыі ваяводзтваў: львоўскага, станіславаўскага, тарнапольскага, валынскага, палескага, наваградзкага і **віленскага** будуць двуязычныя польска-рускія (русінскія) і **польска-беларускія**“.

У той-жа „Uśtawie“ істнуе такі артыкул:

> „Арт. 11. Гэты ўстаў уваходзе ў жыцьцё з днём 1 **кастрычніка 1924 г**. Адначасна загады, нязгодныя з пастановамі гэтага ўставу, губляюць абязываючую сілу“.

Ня гледзячы на ўсё гэтае, **22 лютага 1925 году ў Троках, Віленскага ваяводзтва, адбылося адкрыцьце новае дзяржаўнае жаноцкае вучыцельскае сэмінарыі — выключна польскае!**

Так міністэрства асьветы **зламала закон**, прыняты Соймам і Сэнатам, зацьверджаны Прэзыдэнтам Рэспублікі і апублікаваны ўстаноўленым канстытуцыяй парадкам.

---

## Добры прыклад.

*Як жыхары вескі Шэні, Пружанскага павету, споўнілі свой бацькаўскі абавязак:*

Па атрыманьні ад Ц. Б. Ш. Р. блянкаў дэклярацыяў і інструкцыі „Як дамагацца беларускай школы“, жыхары вёскі Шэні на сходзе цьвёрда пастанавілі дамагацца для сваіх дзетах сваей роднай беларускай школы.

Для запаўненьня дэклярацыяў і для захадаў у гміне, каб падпісы на гэтых дэклярацыях, як можна хутчэй, былі сцьверджаны, грамада выбрала 4-х паўнамоцнікаў: Засіма Сьцяпана, Жука Сяргея, Кліма Канстантына і Швешку Грышку. Паўнамоцнікі на другі дзень абыйшлі ўсю вёску, запоўнілі дэклярацыі і растлумачылі, у які дзень будзе войт у гміне, дык каб усе прыйшлі туды заверыць сваі подпісы.

Так усе і зрабілі: дружна пасыпалі, як на кліч сваей Бацькаўшчыны.

Паўнамоцнікі зраньніцы ўжо былі ў гміне і даводзілі войту, што на падставе распараджэньня Міністра Асьветы з 7. II. 1925 г. ён мусіць сцьвярджаць падпісы бацькоў, якія жадаюць вучыць сваіх дзяцей у свай роднай беларускай мове. Войт перш казаў, што яшчэ ня мае гэтага распараджэньня. Тады паўнамоцнікі папрасілі яго пашукаць гэтага распараджэньня ў канцэлярыі. Калі пісар урэшце знайшоў, і войт прачытаў, то стаў сцьвярджаць подпісы. За два дні было сцьверджана 53 дэклярацыі на 74 дзяцей.

На чацьверты дзень два паўнамоцнікі адвязьлі дэклярацыі Школьнаму Інспэктару ў м. Пружаны і 20. II. здалі пад расьпіску, зробленую на сьпіску бацькоў і дзяцей.

Копію гэтага сьпіску з падпісамі Інспэктарату аб прыняцьці дэклярацыі 23. II. прадставілі ў Цэнтральнаю Беларускую Школьную Раду.

На гэтым жа сходзе пастанавілі адчыніць прыватную беларускую школу, пакуль на дамаганьне праз дэклярацыі будзе адчынена ўрадовая беларуская школа. **Дэклярант.**

*Чэсьць Вам, змагальнікам за сваю родную беларускую школу!*

*Няхай Ваш пастулак паслужыць прыкладам для другіх весак!*

*Толькі сваімі высілкамі наш шмат—пакутны народ дабудзе сваю лепшую долю!*

*Рэдакцыя,*

---

# „Трыумф Канстытуцыі“

**ці „выкананьне“ „зямельнай рэформы“.**

Апошні тыдзень у Польшчы — прайшоў пад знакам „reformy rolnej“.

Пасьля 5 бяз малага гадоў ляжаньня ў камісыйнай магіле, куды палажыла яе польская лявіца, а дзе трымалі яе, пачародна пілнуючы, як рымскія жаўнеры цела Ісуса, лявіца і правіца, — аграрная рэформа быццам мае... „паўстаць з мертвых“.

Але, як заўсёды бывае ў падобных „цудах“, пахавалі аднаго, а „ўваскрос“ нехта зусім другі...

Нашым чытачом добра ведама кароткая гісторыя гэтага „жывога трупа“, спараджонага і пахаванага ў 1920 г.

У часе бальшавіцкага наезду — 15 ліпня 1920 году—установчы Сойм—**аднагалосна** прыняў закон, які суліў правядзеньне запраўднай зямельнай рэформы ў Польшчы: меў надзяліць зямлёй усе мала—і беззямельнае насяленьне. Нават паны каталіцкія біскупы — у вядомай патрыятычна-ахвярнай адозве свайго „Камітэту“—у шляхотным захопленьні.... бальшавіцкай небясьпекай—аддалі ўсе сваe абшары (бо-ж касьцёл—найвялікшы абшарнік у Польшчы!) у распараджэньне ўраду—на патрэбы зямельнай рэформы...

Уся „панская“ Польшча выракалася тады галоўнае падставы свайго „панства“ — абшарніцкай зямлі, абы толькі... „хамская“ Польшча—польскі дый „Крэсавы“ „хлоп“—жаўнер ліў, не шкадуючы, сваю кроў, бароначы і ратуючы „супольную матку—айчыну“—Państwo Polskie...

І „хлоп“ паверыў—пайшоў, ліў ракой сваю і братаву кроў, бараніў, ратаваў і—адратаваў...

Але, як толькі адратаваў, як толькі „панская“ Польшча пачулася больш-менш бясьпечнай, дык у ўсіх гэтых шляхотных „князёў“—абшарнікаў—духоўных і сьвецкіх хутка пачаў праходзіць і выветрывацца іх шляхотны ахвярны патос, і ўсе яны—і духоўныя бадай — што йшчэ больш упорна і прагавіта,—чым сьвецкія, — пачалі трымаць свае маёнткі ня толькі рукамі, але і зубамі. Дык ня дзіва, што тое „нешта“, што ўваскросла цяпер, праляжаўшы гэтыя 5 гадоў адносна бясь-

